


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 лістапада 2001 года
№ 46 (343)
Выходзіць па пятніцах

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Аўтобусны білет падаражэў

МАЛАДЗЕЧНА. З 10 лістапада рашэннем аблвыканкома павялічаны кошт білетаў у гарадскіх аўтобусах. Цяпер поўны білет каштуе 80 рублёў (раней 60), ільготны – 40 (30). Праезд па хуткасным маршруце абыдзецца ў 160 рублёў.

СМАРГОНЬ. Тут былі адменены 4 гарадскія і 5 прыгарадных маршрутаў. Але пасля павышэння кошту білетаў 7 з іх аднаўленыя.

Вольга ПІЛІПЕНКА.

### Помнік сям'і патрыётаў

ВІЛЕЙКА. Днямі ў вёску Шыпкі прыязджалі госці з Польшчы, якія ўстанавілі ў лесе памятны знак.

На помніку пералічана 7 чалавек – членаў адной сям'і Копацаў. Чатыры з іх пахаваныя ў Шыпках: **Самуэль Францішак** (1851–26.02.1914), **Марыя**, у дзявоцтве Капусцінская (1853–1931), **Антаніна**, у дзявоцтве Юшкевіч (1874–27.10.1919), **Сабіна Іжыцкая** (Копаць).

Яшчэ трое пахаваныя тут сімвалічна: **Яўстахій** (1863 г. загінуў у баі з рускімі войскамі пад Уладыкамі, на Вілейшчыне), **Галіна** (4.04.1923–18.02.1943, расстраляная немцамі), **Ірэна**, у дзявоцтве Сечыкоўская (1901–1944, загінула ў Асвенціме).

У архіве Вілейскага краязнаўчага музея захоўваецца метрычная кніга Альховіцкага касцёла, дзе рэгістравалася хрышчэнне, ёсць запіс ад 12 лістапада 1871 года: "У імені Шыпкі ў дваранаў Францішка Самуіла і Марыі, народжанай Капусцінскай, Копці нарадзіўся сын Леапольд Марцін".

Вольга ПІЛІПЕНКА.

### Камп'ютэры для Крэўскай СШ

СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні ў лясніцтва Крэўскай сярэдняй школы прыехала міжнародная камісія. Члены яе ацэньвалі, наколькі лясгас падрыхтаваны да сертыфікацыі вытворчасці. Сертыфікат дасць права прадаваць драўніну за мяжу з пометай "экалагічна чыстая". Прадстаўнікі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта паабяцалі ў выпадку працягу супрацоўніцтва паміж вучнямі школы і лясніцтвам падарыць Крэўскай СШ 8 камп'ютэраў.

Тарэса КУМІШЧА.

### «Лілея» – першая

ВІЛЕЙКА. Скаўцкая газета "Лілея" стала пераможцай у рэспубліканскім конкурсе. Як паведамляе агенцтва БелаПАН, 10 лістапада ў Мінску падведзены вынікі II конкурсу школьных і вучнёўскіх газет, праведзенага рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем «Таварыства беларускай школы» (ТБШ).

Цырымонія ўручэння ўзнагарод прайшла ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. Газета "Лілея" (куратар **Віталь Паўлоўскі**) стала адной з трох газет, якая атрымала дыплом першай ступені.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Школе паўстагоддзя

МЯДЗЕЛ. У мінулую суботу ў вёсцы Сваткі адзначалі 50-гадовы юбілей мясцовай сярэдняй школы. Падарункаў хапала: і тэлевізар, і экзатычная пальма, а мясцовыя дактары нават лекі прынеслі. А ад інспекцыі прыродных рэсурсаў і ахоўы навакольнага асяроддзя школа атрымала відэакамеру і званне базавай у раёне па экалагічным выхаванні і адукацыі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Адмена цягнікоў



16 лістапада адмяняецца электрацягнік Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна ў 9-41, прыбыццём у Маладзечна ў 12-59.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 17 лістапада

Мінск
-5 – 1°С (уначы)
-2 – 5°С (удзень)



Вільня
-1°С (уначы)
6°С (удзень)



Нядзеля, 18 лістапада

Мінск
-2 – 2°С (уначы)
1 – 5°С (удзень)



Вільня
2°С (уначы)
7°С (удзень)



# Сібірская язва

**На ўскраіне Краснага пад гарой у накірунку Ракуцёўшчыны на агародзе Ядвігі Шорац стаіць абгароджаны на трохкутнік участачак з папераджальным надпісам: "Сібірская язва!".**

Праўда, сама гаспадыня ў гэта не надта верыць. Тым больш, што яна пра гэтую небяспечную лапінку зямлі дачулася толькі праз год 12 пасля таго, як пасялілася тут з мужам **Баляславам**. Прыехалі ў Краснае з Мардасоў на Вілейшчыне. Сяліліся там, дзе ўчастак выдзелілі. Выбіраць не даводзілася.

Цяпер кожную зіму дзеці катаюцца з гары на санках, не зважаючы на папераджальны надпіс. Ды і сама гаспадыня кожнага году садзіць агарод, які мяжуе з небяспечным участкам. Мяжуе – умоўна кажучы. Мяжа – плот. І ўсё. Цяпер толькі дакументы пацвярджаюць факт пахавання тут у 1953 годзе калгаснай каровы, хворай на сібірскую язву. Нават удзельнік тых падзей – васьмідзесяцігадовы **Андрэй Харашэвіч**, на той час конюх, – не верыць, што тут быў выпадак з язвай.

Ветурач-эпізаатолаг райветстанцыі **Ганна Лазар** сцвярджае, што калі ёсць дакументы аб выпадках хваробы на сібірскую язву, то яны маглі з'явіцца толькі ў выпадку іх пацвярджэння лабараторнымі даследаваннямі. Так што папярэджанні аб небяспецы – не пусты гук.

Працяг тэмы на 4-й стар.




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Такімі папераджальнымі знакамі пазначаюцца ўсе вядомыя ачагі сібірскай язвы. Непадалёк ад вёскі Вязавец на Маладзечаншчыне.

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Вы баіцеся сібірскай язвы?



**Валянціна Гурыновіч, настаўніца:**
– Усе баяцца, таму што гэта страшная хвароба.



**Аляксандр Яфімаў, студэнт БДПА:**
– Чаго баяцца? Беларусы не захварэюць, пасля Чарнобыля нам нічога не страшна.



**Жанна Шумская, тэхнік-тэхнолаг па прыгатаванні ежы:**
– Не баюся, таму што не сутыкалася з ёй у жыцці.



**Жанна Гапцар, швачка:**
– Баюся, бо сёлета шмат заразы. Тэрарызм тут ні пры чым, жыццё ў нас нейкае незразумелае.



**Аляксандр Ліс, метадыст гарадскога аддзела адукацыі:**
– Асабіста для мяне сібірская язва не страшная. Гэта ажыятаж спецыяльна нагнятаецца СМІ з мэтай напалохаць насельніцтва. Мы згаджаемся з тым, што тэрарызм запаланіў наш розум. Але гэта трэба адкідваць і не дурыць сабе галаву.



**Вадзім Плюто, вучань СШ №2, 8 клас:**
– Страшнавата. Захварэць на язву можна, а вылечыцца цяжка. Я ведаю, што гэты вірус знайшлі ў Расіі, але, спадзяюся, такога на Беларусі няма.

Фотаапытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.

■ ПАРТРЭТ

# Старшыня, сын старшыні і паэта

**МАЛАДЗЕЧНА. Не кожны, хто піша вершы, становіцца старшынёй сельсавета. І, зразумела, не кожны старшыня сельсавета піша вершы. Генрыху Кутасу ўдаецца і тое, і другое. На мінулым тыдні ён узначаліў Чысцінскі сельсавет.**

– Хаця я толькі выконваю абавязкі. Тайнае галасаванне па гэтым пытанні сярод дэпутатаў сельскага савета пройдзе ў лютым.

**– Хто прапанаваў вам перайсці на пасаду старшыні сельсавета?**

– Некалькі чалавек. Пасада старшыні сельсавета была вакантная каля месяца.

**– Доўга думалі аб пераходзе?**

– Не вельмі.

**– Чаму вырашылі перайсці?**

– Ёсць жаданне працаваць. Тут больш магчымасцяў у галіне арганізацыі, добрая магчымасць праверыць, ці змагу я быць кіраўніком.

**– Якія задачы паставілі перад сабой?**

– Наш сельскі савет не зусім звычайны – тут няма калгаса, малако збіраць не трэба. Таму для мяне галоўнае – займацца добраўпарадкаваннем пасёлка, вырашаць спрэчныя зямельныя пытанні і працаваць з людзьмі. Тут шмат перасяленцаў з чарнобыльскіх раёнаў.

Яшчэ адзін накірунак – правядзенне выбараў розных узроўняў – ад мясцовых саветаў да прэзідэнцкіх.

Таму і ацэньвацца мая работа будзе ў залежнасці ад ступені выканання гэтых задач.

**– Ваша маці ўзначальвае Ільянскі сельсавет на працягу 13 год. Што яна сказала, калі даведалася, што вы сталі яе калегам?**

– "Паспрабуй!" Хаця ўсё гэта было нечакана для мяне.

**– Ваш бацька піша вершы. Нядаўна зборнік выдаў.**

– Я таксама публікаваўся ў розных выданнях: у "Маладосці", "Чырвонай змене", вілейскай раёнцы.

**– На якой мове пішаце вершы?**

– Толькі на беларускай. Я скончыў беларускую школу. Быў прызёрам рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове. Люблю беларускую літаратуру. Хацеў раней стаць журналістам. Збіраў свае публікацыі перад паступленнем.

**– Пра кар'еру журналіста не марыце?**

– Пакуль не. Хаця лічу, што, можа, гэта і лепш, калі журналіст спачатку атрымае іншую адукацыю.

**– Чаму, калі ў вас ёсць гуманітарныя здольнасці, паступілі ў эканамічны ўніверсітэт?**

– Гэта не для друку?

**– Тады лепш не гаварыце. Замежнымі мовамі валодаеце?**

– Рускай (смяецца). Гэта жарт. Нямецкай са слоўнікам.

**– Вершы часта пішаце?**

– Цяпер радзей – некалькі на год. Гэта толькі Цютчаву было дадзена займацца вышэйшай матэматыкай і пісаць вершы.

**– Якія здольнасці за сабой заўважылі?**

– Люблю гатаваць. Прычым, усё: суп, плоў, выпечку. Гэта да мяне неяк само прыйшло. Па матчынай лініі ўсе мужчыны добра гатуюць.

**– Першае блюда памятаеце?**

– Драні́кі.

**– Ну, і як першы блін?**

– Не памятаю. Больш да гатоўкі прыахвоціўся, калі вучыўся ў інстытуце. Мы жылі ў інтэрнаце ўдвух з сябрам. Ён раней вучыўся ў марскім вучылішчы, таму займаўся ўборкай (як гавораць маракі, прыборкай), а я гатаваў. І кожны займаўся толькі сваёй работай.

**– Са сваім суседам па пакоі бачыцеся?**

– Так. Ён працуе ў Брэсце старшым мытным інспектарам. Я быў у яго сведкам на вяселлі, ён прыязджаў да мяне ў госці. А яшчэ люблю рыбалку. Выязджаю часам на Вілію. Зімовая рыбалка мне не падабаецца.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Генрых Кутас. Нарадзіўся 30 чэрвеня 1972 года ў Ілы, на Вілейшчыне. У 1994 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт. З 1994 года па 1999 год працаваў у ЗАТ "Забудова". Пачынаў з таваразнаўцы, скончыў загадчыкам валютнага аддзела. У 1999 перайшоў у падатковую інспекцыю Маладзечанскага раёна. Працаваў інспектарам. З 2-га лістапада 2001 года выконвае абавязкі старшыні Чысцінскага сельсавета. Жанаты, сыну 5 год.**

**Генрых КУТАС.**

## Журба

*Не кленчы спагады ў журбы,*
*Яна не даруе ніколі*
*Ні сонцу, ні ветру,*
*ні песням трубы,*
*Ні бітвам крывавым за волю.*

*Узняўся між траваў палын,*
*Цвіце, ды не лётаюць пчолы.*
*І шэпча журба:*
*– Ты мой сын,*
*Таму і не будзеш вясёлы.*

*І хочаш суцішся,*
*а хочаш крычы*
*І мар аб нявыйграных бітвах.*
*Не будуць узнёсла*
*іграць трубачы,*
*А толькі прашэпчуць*
*малітву.*

*Не кленчы спагады ў журбы.*
*Яна не даруе ніколі.*
*Спяшайся на гукі трубы*
*У крывавыя сечы за волю.*

*Там стопчацца шэры палын,*
*Зазвоняць у вераску пчолы,*
*Ты сын не журбы,*
*ты зямлі сваёй сын,*
*Таму будзь заўсёды вясёлы.*

*І ў далі зазорныя*
*ты закрычы,*
*Што мы пераможам*
*у бітвах.*
*Што гімны адтрубяць*
*і нам трубачы,*
*Журбе ж прачытаюць*
*малітву.*

■ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ

## Дабрачынны канцэрт «Грацыі»

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 лістапада ў Доме культуры чыгуначнікаў адбыўся дабрачынны вечар танцавальнага клуба "Грацыя" беларускай гімназіі, грошы ад якога пойдуць на будаўніцтва СШ №14.**

Вечар складаўся з трох аддзяленняў (36 нумароў), доўжыўся 3 гадзіны. Ідэя правядзення такога канцэрта належыць кіраўніку клуба "Грацыя" **Дзмітрыю Хаўроніну**.

– Раней будавалі храмы ўсёй грамадой. Будаўніцтва гэтай школы – будучыня нашых дзяцей, і мы не павінны быць абыякавыя да гэтага. Таму я хачу звярнуцца з заклікам да гарадскіх творчых калектываў, каб яны падтрымалі гэтае пачынанне і правялі 1–2 дабрачынныя канцэрты.

Арганізатары пералічаць на рахунак школы 60 тысяч рублёў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ НЕБА

## Лістападаўскі зарапад

**У ноч з 17 на 18 лістапада 2001 года чакаецца зорны дождж.**

Па дадзеных іншаземных экспертаў, зорны феерверк могуць убачыць жыхары Аўстраліі і Сярэдняй Азіі, а таксама назіральнікі ўсходняга пабярэжжа ЗША. Для жыхароў Еўропы цяжка прадказаць магчымую актыўнасць метэораў, таму што яны могуць ўбачыць толькі спадаючую галіну азіяцкага піка. З вечара 17 лістапада можна ўбачыць мноства доўгіх метэораў, што вылятаюць з паўночна-ўсходняга сектара неба (сузор'е Льва). Палюбавацца з'явай шматлікіх "зорак", што падаюць, можна на світанку 18 лістапада.

**Іван СЯРГЕЙ.**

■ МЕДЫЦЫНА

## РТМА рыхтуецца да юбілею

**МАЛАДЗЕЧНА. За 9 месяцаў у раёне амаль у 2 разы паменшылася колькасць захворванняў на вострыя кішэчныя інфекцыі ў параўнані з леташнім паказчыкам.**

Гэта галоўны вынік работы Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання (РТМА) сёлета.

У лютым РТМА будзе святкаваць 30-годдзе дня ўтварэння. Намеснік галоўнага ўрача РТМА **Уладзімір Швакель**:

– Галоўная задача – забяспечыць даступнасць і аб'ём медыка-сацыяльнай дапамогі сельскаму насельніцтву. Будзем паціху абнаўляць дыягнастычнае і лячэбнае абсталяванне ў бальніцах раёна.

**Надзея СМАЛЬЯКОВА.**

■ ДНІ

16 лістапада – **195 год з дня адкрыцця** (1896) у Мінску **першай тэлефоннай станцыі** агульнага карыстаня, якая паклала пачатак развіццю Мінскай гарадской тэлефоннай сеткі.

17 лістапада – **Сусветны дзень студэнтаў.**

18 лістапада – **Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу**

**80 год з дня нараджэння** (1921) **І. Бароўскага**, беларускага жывапісца.

**70 год з дня нараджэння** (1931) **А. Вярцінскага**, беларускага паэта.

19 лістапада – **Дзень ракетных войскаў і артылерыі.**

20 лістапада – **100 год з дня нараджэння Міхася Зарэцкага** (сапр. М. Касянкоў; 1901–1937), беларускага пісьменніка.

**80 год з дня нараджэння М. Сільніцкага** (1921–1942), Героя Савецкага Саюза.

■ БУДСЛАЎСКІ ФЭСТ

## Здымкі з Будслава ў сталіцы

МІНСК. У музеі гісторыі беларускай літаратуры (месціцца у Траецкім) доўжыцца выстаўка прафесійнага фатографа **Сцяпана Надольскага** пад назвай «Заступніца роднага краю». Прадстаўленыя там фатаграфіі з Будслаўскага фэсту гэтага і мінулага гадоў. Здымкі цікавыя – збольшага фэсты паказаныя праз твары вернікаў і святароў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СЕМІНАРЫ

## «Грамадзянін і следства»

**АШМЯНЫ. На мінулым тыдні прайшоў семінар "Грамадзянін і следства". Яго праводзілі прадстаўнікі аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

Мэта семінара – навучыць, як трэба сябе паводзіць, калі цябе затрымалі па палітычных матывах. Прайшла ролевая гульня. Прысутнічалі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, актыўныя грамадзяне – каля 15 чалавек.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СМІ

## «Пагоню» закрылі

**12 лістапада пастановай Вышэйшага гаспадарчага суда Беларусі ліквідаваная «Пагоня» – адна з першых незалежных беларускіх дэмакратычных газет, якая выдавалася ў Гродне і прадстаўляла нешматлікую недзяржаўную беларускамоўную прэсу. Такім чынам быў задаволены іск пракуратуры Гродзенскай вобласці аб закрыцці газеты, ліквідацыі рэдакцыі і юрыдычнай асобы.**

17 лістапада мінулага года «Пагоні» было вынесенае папярэджанне за распаўсюджванне заявы незарэгістраванага аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы». Амаль праз год, 5 верасня, увесь тыраж "Пагоні"быў арыштаваны ў друкарні. «Пагоню» абвінавацілі ў публікацыі паклёпніцкіх матэрыялаў на **Аляксандра Лукашэнку**. На газету была заведзеная крымінальная справа, а таксама ёй вынеслі чарговае папярэджанне. Пасля двух папярэджанняў выданне можа быць закрытае, аб чым і быў накіраваны іск у Вышэйшы гаспадарчы суд.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## БАЖ пратэстуе

**Грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ) распаўсюдзіла заяву, у якой пратэстуе супраць пастановы Вышэйшага гаспадарчага суда.**

На працягу года рэдакцыі газеце "Пагоня", – гаворыцца ў заяве, – было вынесена толькі адно афіцыйнае папярэджанне. Калі падчас судовага працэсу высветлілася, што гэтага недастаткова для закрыцця газеты, пракуратура Гродзенскай вобласці вынесла газеце другое папярэджанне (ад 21 верасня) за публікацыю тых жа матэрыялаў, што сталі падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы. Пракуратуру не збянтэжыла, што расследаванне гэтай справы не скончылася і няма судовага рашэння, якое пацвярджала б факт парушэння газетай заканадаўства.

Рэдакцыя газеты "Пагоня" абскардзіла папярэджанне пракуратуры ў гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці. Аднак Вышэйшы гаспадарчы суд узяўся сам разглядаць скаргу і аб'яднаў яе з з іскам пракуратуры аб закрыцці газеты. У судовым разглядзе суддзя Валерый Жандараў прызнаў гэтае папярэджанне законным і абгрунтаваным нягледзячы на тое, што факт паклёпу на прэзідэнта не быў даказаны ва ўсталяваным парадку.

Міністэрства інфармацыі (раней – Дзяржкамітэт па друку), у інтарэсах якого быў пададзены іск аб закрыцці газеты і ліквідацыі рэдакцыі, адмовілася ад іску яшчэ да суда. Тым не менш, Вышэйшы гаспадарчы суд не прыняў да ўвагі аргументы прадстаўнікоў рэдакцыі газеты "Пагоня" і Міністэрства інфармацыі і адначасова з прызнаннем папярэджання пракуратуры абгрунтаваным вынес рашэнне аб закрыцці газеты "Пагоня" і ліквідацыі рэдакцыі.

Беларуская асацыяцыя журналістаў звязвае закрыццё газеты "Пагоня" і ліквідацыю яе рэдакцыі з абяцаннем Аляксандра Лукашэнкі "разабрацца" з незалежнай прэсай пасля выбараў. У гэтым жа шэрагу – працяг расследавання крымінальных справаў, распачатых па факце публікацыі перадвыбарчых матэрыялаў у газетах "Пагоня" і "Рабочы" і адмова Вышэйшага гаспадарчага суда разглядаць іск газеты "Брестский курьер" да Міністэрства інфармацыі аб прызнанні несапраўдным папярэджання.

Беларуская асацыяцыя журналістаў выказвае рашучы пратэст у сувязі з гэтымі фактамі. Мы заклікаем спыніць палітычна матываваныя крымінальныя справы, датычныя незалежных выданняў і журналістаў.

Беларуская асацыяцыя журналістаў патрабуе ад беларускіх уладаў тэрмінова перагледзець рашэнне аб закрыцці газеты "Пагоня", якое не грунтуецца на законе і фактах. У выпадку, калі гэтае патрабаванне не будзе выканане, мы пакідаем за сабою права арганізацыі акцый пратэста, а таксама зварот па дапамогу да парламентаў і ўрадаў краін-удзельніц АБСЕ, сябрам якой з'яўляецца і Рэспубліка Беларусь.

Калі наш голас не будзе пачуты, Беларуская асацыяцыя журналістаў зробіць усё магчымае, каб дзікунскія факты пераследу свабоды слова сталі вядомыя міжнароднай грамадскасці і былі асуджаныя ёю.

■ ПРАФЕСІЯ – ПАШТАЛЬЁН

# Паштальёна ногі кормяць

**Здаецца, гэтая прафесія – адна з самых старажытных і неўдасканаленых да гэтага часу. У наш век яшчэ не зрабілі такога вынаходніцтва, што магло б прынесці палёгку паштальёну. Яны, як і шмат год і нават стагоддзяў таму, ходзяць пешшу, носяць у руках стосы газет, часопісаў, пісьмаў.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Маладзечна, шостае паштовае аддзяленне. Паштальёнка Аксана Сабалеўская сартуе газеты.

Каб працаваць на стаўку, гарадскі паштальён павінен праходзіць да 10 кіламетраў у дзень і абслужыць 100 дамоў, а сельскі – 15-17 кіламетраў у дзень і абслужыць 3–5 вёсак.

Усяго гарадскіх паштальёнаў – 35, а сельскіх – 67 на 278 населеных пунктаў Маладзечаншчыны. Паштальён можа мець катэгорыю 1, 2 ці 3 класа. Сярэдні ўзрост – 40 год.

Дзесьці раз на год, а то і часцей (па неабходнасці), раённы вузел паштовай сувязі (РВПС) праводзіць набор паштальёнаў. Інструктаж працягваецца 3–4 дні. Потым яны забяспечваюцца ўсім неабходным, сярод чаго ёсць і аэразольныя балончыкі для самаабароны.

Паштальёны скардзяцца, што ў дамы, дзе стаяць кодавыя замкі, вельмі цяжка трапіць. А ў прыватным сектары іншая праблема – таго і глядзі, сабака за нагу схопіць. Паштальёны згадваюць, што і балончык неаднойчы іх выратоўваў. Іншы раз і не ведаеш, жыццё табе даражэй або чытачы, для якіх нясеш 20 кілаграмаў пошты. Паштальёны кажуць, што прымаўку "Ваўка ногі кормяць" разумеюць у самым прамым яе сэнсе. Яшчэ складанасць у тым, што падпісчыкаў у горадзе менш, чым на сяле. Але, напрыклад, у вёсцы Рухлі толькі 1 падпісчык, а ў Малым Бары – ніводнага.

З-за беднасці паштальёны вымушаны аказваць іншыя паслугі: ажыццяўляць падпіску, прымаць плацяжы, прадаваць усялякія дробязі – і усё гэта на даму ў кліентаў.

Наогул жа, ва ўсіх гарадскіх аддзяленнях сувязі ўстаноўленыя ксеракапіравальныя апараты, у аддзяленні №6 – і апарат для факсімільных паведамленняў.

Ёсць сетка для паштовых скрынак для вымання пісьмаў – 212 у сельскай мясцовасці, 82 – у горадзе.

Ёсць і новыя паслугі: перасылка карэспандэнцыі з аплачаным адказам (для прадпрыемстваў, камерцыйных фірмаў, арганізацый), перасылка на адрас жыхароў Мінска з найбольш хуткім шляхам праходжання і захаванасцю (уручэнне на наступны дзень).

Усе сельскія аддзяленні сувязі аказваюць не толькі паслугі пошты, але і электроннай сувязі, а таксама шэраг нетрадыцыйных: прыём камунальных плацяжоў. Незвычайнай паслугай лічыцца паскораная перасылка пошты ў СНД і далёкае замежжа (ад 3 да 7 сутак).

**Ірына РАБУШКА.**

■ КУРСЫ ВАЛЮТ

## Курсы валют НБ РБ

| | 8 лістапада | 15 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1516,00 руб. | **1523,00** руб. |
| Нямецкая марка | 695,67 руб. | **684,71** руб. |
| Літ | 379,05 руб. | **380,75** руб. |
| Расійскі рубель | 51,08 руб. | **51,24** руб. |
| Злоты | 370,34 руб. | **371,28** руб. |
| ЕЎРА | 1360,61 руб. | **1339,17** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1510 – 1530 руб. | **1530 – 1540** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 6.11 | 14.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7800 | **7700** |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | **3180** |
| Селядзец, 1 кг | 1870 | **1870** |
| Рыс, 1 кг | 530 | **530** |
| Грэчка, 1 кг | 420 | **430** |
| Цукар, 1 кг | 675 | **675** |
| Алей, 1 л | 1160 | **1250** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 790 | **790** |
| Маянэз, 200 г | 270 | **280** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | **1700** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 550 | **550** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 480 | **470** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 300 | **300** |
| Капуста, 1 кг | 160 | **160** |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | **1200** |
| Апельсіны, 1 кг | 1200 | **1200** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1300 | **1000** |
| Масла, 1 кг | 3000 | **2600** |
| Тварог, 1 кг | 1000 | **1200** |
| Малако, 1,5 л | 450 | **450** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | **1500** |
| Бульба, 1 вядро | 1400 | **1600** |
| Морква, 1 кг | 250 | **300** |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | **250** |

■ СЕМІНАРЫ

# Семінар прадпрымальнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. 8 лістапада ў "Бізнес-цэнтры" прайшоў семінар. Яго арганізавалі Беларускі саюз прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя прафесара Куняўскага (БСПН імя Куняўскага) сумесна з цэнтрам міжнароднага прыватнага прадпрымальніцтва.**

Праводзілі семінар: прэзідэнт БСПН **Георгій Бадзей**, першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**, намеснік выканаўчага дырэктара па прававых пытаннях БСПН **Ніна Навумовіч**, кансультант па малым бізнесе БСПН **Жанна Тарасевіч** і кіраўнік аддзела кіравання Міністэрства прадпрымальнікаў **Аляксандр Ліхачэўскі**. У семінары бралі ўдзел 25 чалавек. У асноўным, гэта дырэктары недзяржаўных прадпрыемстваў і індывідуальныя прадпрымальнікі. Яны падзяліліся не толькі сваімі праблемамі, але і ўдзельнічалі ў дыскусіях. Аляксандр Ліхачэўскі ўказаў на некаторыя праблемы развіцця прыватнага бізнесу: прыцягванне інвестыцый у эканоміку краіны, скарачэнне ліцэнзаваных відаў дзейнасці ад 165 да 10-12, зніжэнне падаткаў і мінімальных ставак арэнднай платы, абмежаванне праверак іх дзейнасці. Затым выступіў Георгій Бадзей:

– Патрэбна самім зразумець, хто мы і што павінны рабіць, каб нас успрымалі. Для доказу сваёй значнасці неабходна аб'яднацца ў бізнес-асацыяцыі, якія праводзяць навучальныя семінары, аказваюць бясплатную юрыдычную дапамогу, забяспечваюць стасункі на міжнародным узроўні.

Па дадзеных на 1 верасня 2001 года, 4107 прадпрыемстваў Беларусі (35,1%) – стратныя, а ў цэлым, сума страт па эканоміцы склала 230,6 мільярдаў рублёў. Дырэктар "ТЭМПО" **Віктар Сямёнаў** сказаў:

– Прадпрымальнікі – гэта залаты фонд нацыі, лічаць у Амерыцы, а ў нас у рэспубліцы, па словах прэзідэнта, – гэта вашывыя блохі. Патрэбна растлумачыць работніку прыватнага прадпрыемства, што ягоная праца – добрая справа не толькі на карысць сабе.

Выступіла адна з вядучых семінара Ніна Навумовіч:

– Станоўчы імідж прадпрымальніцкай фірмы служыць фактарам паспяховай дзейнасці, якая дасягаецца добрай якасцю прадукцыі, кваліфікаванасцю персаналу, устойлівым фінансавым становішчам і адпаведнай рэкламай.

У будучым БСПН плануе стварыць рэгіянальныя і галіновыя бізнес-асацыяцыі, дамагчыся прыняцця ўсіх прапаноў, вырашыць пытанне пра змяншэнне велічыні членскіх узносаў. Таму што для некаторых прадпрымальнікаў яны вялікія.

Гергій Бадзей сказаў:

– Велічыня ўзносаў рэгулюецца на з'ездзе БСПН. Сёлета, у залежнасці ад колькасці працаўнікоў, сума ўзносаў ад 100 да 220 "мінімалак" у год.

Адзін з удзельнікаў сказаў, што на яго прадпрыемстве працуе 17 чалавек і яму зручней наняць кваліфікаванага юрыста.

Напрыканцы семінара выступіў Яфім Ідэльчык:

– Патрэбна супрацоўнічаць з мясцовымі выканкамамі. Чым больш мы будзем змагацца за нашыя перакананні, тым больш яны будуць рэалістычныя.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Чым нас хацелі накарміць

**Спецыялістамі Маладзечанскага міжраённага камітэта Дзяржкантролю праведзеная праверка прадпрыемстваў гандлю Маладзечна па якасці харчовых тавараў.**

Пры праверцы прадпрыемстваў гандлёвага дома "Пасаж" (Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 9, дырэктар Уладзімір Верамей) у магазіне №2 (Вялікі Гасцінец, 147, загадчыца магазіна Ірына Суднікові) знаходзіліся тавары з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі на суму 313,5 тысяч рублёў. Гэта дзіцячыя кашы, сухафрукты, крупы, прыправы, ягадныя сіропы, марынаваны перац, газіраваныя напіткі, марынаваныя грыбы.

У магазіне №1 гэтага ж гандлёвага дома з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі знаходзілася 5 слоічкаў марынаванага перцу на агульную суму 5,9 тысячы рублёў, апошні тэрмін рэалізацыі якога 07.09.01 г.

Пры праверцы гандлёвых прадпрыемстваў ЗАТ "Бізнес-цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва" (Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 72, дырэктар В. Бурмака) у магазіне "Паўлінка-2" (вул. Б. Хмяльніцкага, 1, загадчыца магазіна К. Буткевіч) з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі ў продажы знаходзіліся кілбасы і сыр "Сельскі" нетаварнага выгляду.

У магазіне "Паўлінка-3" (Маладзечна, В. Гасцінец, 72, загадчыца магазіна Л. Бондар) з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі ў продажы знаходзіліся сардэлькі "Апетытныя", 4 пачкі шакаладнага масла, 4 слоічкі маянэзу на агульную суму 15,8 тысячы рублёў. Акрамя таго, у продажы быў тавар на агульную суму 60,5 тысячы рублёў, тэрмін дзеяння сертыфікатаў адпаведнасці на якія скончыўся, у тым ліку, марынаваныя грыбы на агульную суму 18,3 тысячы рублёў, тэрмін дзеяння сертыфіката адпаведнасці на якія сапраўдны да 13.10.10 г., віно вытворчасці ТАА "Вінрэал" в. Ноўка Віцебскага раёна на агульную суму 42,2 тысячы рублёў, тэрмін дзеяння сертыфіката адпаведнасці на якое сапраўдны да 05.07.01 г.

У гандлёвым доме "Квінта" (Маладзечна, вул. Крынічная, 19, індывідуальны прадпрымальнік А. Заянчкоўскі) з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі знаходзіліся кілбасы на агульную суму 38 тысяч рублёў, а таксама чай на агульную суму 4,5 тысячы рублёў, тэрмін дзеяння сертыфіката адпаведнасці на які скончыўся 07.07.01 г.

Ва ўсіх правераных магазінах не выконваецца патрабаванне аб неабходнасці інфармавання пра апошнія тэрміны рэалізацыі на прадукцыю, што асабліва хутка псуецца.

У ходзе выбарачнай праверкі правільнасці фарміравання цэнаў на стравы, што выраблюцца ў сталовай гандлёва-вытворчага комплексу №8 гандлёва-вытворчага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "ДарАРЗ Беларускай чыгункі" (вул. Тамліна, 3, загадчыца Лідзія Марцюхова) устаноўленае завышэнне кошту адной порцыі смажаных куранят за 30, 31 ліпеня гэтага года на 20 рублёў, за 6 жніўня – на 55 рублёў.

Па выніках праверкі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 7 чалавек на агульную суму 75 тысяч рублёў.

**Міжраённы камітэт дзяржкантролю па Мінскай вобласці.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Два чалавекі загінулі ў агні

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю ў вёсцы Сосенка загарэўся жылы дом.**

Загінулі 2 чалавекі і сабака. Пажарную выклікалі ў 7-47 раніцы. Дом гарэў адкрытым агнём. Там была гаспадыня 1929 г. н. і суседка 1935 г. н. Прычына пажару па папярэдніх звестках – неасцярожнае абыходжанне з агнём. Дом згарэў дашчэнту. За мінулыя выхадныя ў Беларусі ад пажару загінула 13 чалавек, з іх 10 – па прычыне неасцярожнага абыходжання з агнём.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Не ашуканцы, а партнёры

Нядаўна ў прэзідэнта краіны прайшла сустрэча з прадстаўнікамі нацыянальнага бізнесу, на якой прамыслоўцы, прадпрымальнікі і банкіры спрабавалі выказаць уладзе сваё меркаванне пра развіццё эканомікі. Сёння ў прыватным сектары занята амаль 2 мільёны чалавек, недзяржаўныя прадпрыемствы вырабляюць 67 працэнтаў спажывецкіх тавараў, прыватнікі забяспечваюць тры чвэрці рознічнага тавараабароту. Аднак нашыя прадпрыемствы саступаюць канкурэнтам з Расіі і Польшчы, 30% фінансавых патокаў ідзе ў цень, няма абароны ўласніка і роўнасці ўмоў дзейнасці, прыватнікаў у шэрагу даходных сфер дырэктыўна выцясняюць з рынку. Дзяржава абклала прадпрымальнікаў падаткамі, спагнаннямі ў пазабюджэтныя фонды, празмерным рэгуляваннем і ліцэнзаваннем.

Падобна, здарылася тое, пра што так даўно гаварыў Лукашэнка, – улада хоча зрабіць выгляд, што чуе прадпрымальнікаў. Сустрэча стала звычайным абменам кампліментамі. Прадпрымальнікі перастаюць у вачах прэзідэнта быць ашуканцамі. Але ці зробяцца яны партнёрамі – залежыць ад уладаў. Прадугледжаны вялізны шэраг мер для забеспячэння жыцця нашым бізнесменам: льготная квота ў 20% пры акцыянаванні буйных айчынных прадпрыемстваў, зніжэнне ліцэнзавання дзейнасці, змяншэнне праверак да 2, заяўляльны прынцып рэгістрацыі. Мяркуецца нават і амністыя капіталаў, акрамя крымінальных. Ужо ў гэтым годзе павінны быць адпрацаваныя пытанні арэнднай платы і змяншэння штрафных санкцый. На 10% чакаецца скарачэнне дзяржаўнага апарату. Аднак, акрамя агучаных мер, ва ўладаў павінны быць яшчэ і воля і жаданне дазволіць людзям самастойна зарабляць.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# Сібірская язва

## Тэрыторыі жывёльных могільнікаў паблізу нашых паселішчаў – небяспечная зона, адкуль можа распаўзціся зараза сібірскай язвы.

**У мінулым ад халеры, чумы, воспы, жоўтай ліхаманкі гінулі гарады, захворванні распаўсюджваліся на цэлы кантынент. Цяпер воспа ліквідаваная, жоўтая ліхаманка – захворванне, пераважна, краін Афрыкі і Лацінскай Амерыкі. Аднак халера і чума ў краінах СНД рэгіструюцца штогод.**

Нягледзячы на адлегласці, гэта выклікае заклапочанасць і медработнікаў нашай рэспублікі, бо пры сучасных транспартных сувязях інфекцыя пераадольвае ўсе межы, і нельга выключыць магчымасць прыезду хворага чалавека ў нашую дзяржаву. Дзейсны кантроль на межах і насцярожанасць урачоў адыгрываюць вырашальную ролю ў недапушчэнні завозу і распаўсюджвання гэтай групы інфекцый на тэрыторыі рэспублікі.

Сёння з'явілася рэальная пагроза прымянення ўзбуджальнікаў інфекцыйных захворванняў у якасці бактэрыялагічнай зброі. І хаця ва ўсім свеце ўспомнілі пра сібірскую язву пасля тэрактаў у ЗША, нельга забывацца, што гэтае захворванне было распаўсюджана на тэрыторыі Расіі больш за 100 год таму. Ахвярамі эпідэмій і эпізаотый рабіліся многія тысячы людзей і дзесяткі тысяч галоў скаціны. У цяперашні час рэгіструюцца адзінкавыя выпадкі захворвання.

Заражэнне чалавека магчымае пры доглядзе за хворымі жывёламі (часцей, буйной рагатай скацінай), пры ўжыванні інфіцыраванага мяса і малака, пры ўдыханні спор, якія знаходзяцца ў пыле ў месцах гібелі жывёл. Таму часцей за ўсё захворванні людзей рэгіструюцца ў сельскай мясцовасці, дзе і раней былі выпадкі сібірскай язвы сярод жывёлы. У Маладзечанскім раёне патэнцыяльна небяспечнай з'яўляецца тэрыторыя жывёльных могільнікаў, размешчаных паблізу вёсак Краснае, Гарадок, Вязавец. Месцы захавання здохлых жывёлін абгароджаныя, маюць сігнальныя знакі, сельскагаспадарчыя работы на іх тэрыторыі забароненыя.

Выкарыстанне спор сібірскай язвы ў сумесі з парашком з мэтай біятэрарызму – вынаходніцтва невядомага аўтара, але "паслядоўнікі" з'явіліся і ў нас. Ужо ў 13 рэгіёнах рэспублікі былі знойдзеныя канверты з парашкападобным рэчывам. Пры даследаванні ўзбуджальнікаў хваробы ў іх знойдзена не было. Пра апошні выпадак у Маладзечне паведамляла ў мінулым нумары "РГ". Аднак трэба памятаць, што пры знаходжанні такіх канвертаў у першую чаргу неабходна выклікаць спецыялістаў МНС (тэлефон 01). Выманне і даследаванне будуць праводзіцца адпаведнымі спецыялістамі.

**Алена БЕЛЬСКАЯ,**
**урач-эпідэміёлаг**
**Маладзечанскага райЦГіЭ.**

**Ачагі сібірскай язвы** (жывёльныя могільнікі і даты пахавання)




**На карце паказаныя, у асноўным, пункты пахавання жывёлы, што здохла ад сібірскай язвы. Зразумела, што ў большасці выпадкаў жывёльныя могільнікі знаходзяццаа за межамі гэтых населеных пунктаў. Часта побач, нярэдка – за адзін-два кіламетры ад бліжэйшага паселішча. Ёсць і такія (Краснае), што месцяцца ў самім паселішчы. Хутар Мазулёўшчына трапіў на нашу карту не таму, што тут ёсць жывёльны могільнік, а з прычыны факту захворвання. Сама ж жывёліна была забітая на бойні ў Івянцы.**

***Рэдакцыя дзякуе ветэрынарным і санітарна-эпідэміялагічным службам рэгёна за прадастаўленую інфармацыю.***

## Пагроза застаецца

У 1941 годзе на востраве Рыерт ля берагоў Шатландыі праводзіліся даследаванні па заражэнні сібірскай язвай авечак, каб адпрацаваць новую бактэрыялагічную зброю. Пасля многіх гадоў простая драпінка тут можа каштаваць чалавеку жыцця. Па меркаванні навукоўцаў, востраў будзе заражаны спорамі сібірскай язвы да 500 год.

Заражэнне сібірскай язвай адбываецца пры доглядзе за хворай жывёлай, убоі, раздзелцы тушы, пры кантакце з трупам загінулай ад сібірскай язвы жывёліны, прадуктамі жывёлагадоўлі і прадметамі, вырабленымі з жывёлагадоўчай сыравіны.

Сярод жывёлы ўспрымальныя да сібірскай язвы, перш за ўсё, траваедныя: буйная і дробная рагатая жывёла, коні. Аднак захварэць ёй могуць і свінні.

Узбуджальнік хваробы – сібіраязвенная бацыла – існуе ў дзвюх формах: вегетытатыўнай, якая сустракаецца ў жывёлы, і споравай – па-за жывымі арганізмамі. Хворая жывёла выдзяляе мікробы сібірскай язвы з мачой, калам, крывяністымі выдзяленнямі, якія ў паветры пераўтвараюцца ў споры. Гэта надзвычай ўстойлівыя формы. Яны захоўваюць жыццяздольнасць пасля 10-мінутнага кіпячэння. Пад уздзеяннем сухога жару пры 120–140 градусах яны гінуць праз 1–3 гадзіны. У аўтаклаве пры тэмпературы 130 градусаў – праз сорак мінут. 1-працэнтны раствор фармаліну і 10-працэнтны раствор едкага натру забівае іх за 2 гадзіны. Заражаная глеба вельмі доўгі час застаецца крыніцай інфекцыі. Атрыманая ад жывёлы сыравіна (воўна, скура, шчаціннe і інш.) і вырабленыя з яе прадметы захоўваюць небяспеку на працягу доўгіх гадоў. У глебе узбуджальнік можа не толькі захоўвацца многія дзесяцігоддзі, але і размнажацца.

Вялікую эпідэміялагічную небяспеку ўяўляюць старыя глебавыя ачагі – жывёльныя могільнікі. Яны могуць нават праз шмат дзесяцігоддзяў пры земляных работах выклікаць успышку сярод людзей і жывёлы.

У аснове прафілактыкі сібірскай язвы ляжыць строгае захаванне санітарных і ветэрынарных правілаў па прафілактыцы і барацьбе з заразнымі хваробамі, агульнымі для чалавека і жывёлы.

Трэба ўлічваць, што захворванні невакцынаванай жывёлы могуць узнікаць у любой мясцовасці, дзе ёсць стацыянарна небяспечныя па сібірскай язве пункты. Узбуджальніка сібірскай язвы могуць выносіць на паверхню зямлі нават дажджавыя чэрві. Першачарговай задачай прафілактыкі з'яўляецца своечасовая імунізацыя супраць сібірскай язвы сельскагаспадарчай жывёлы, якая праводзіцца ў стацыянарна небяспечных пунктах два разы на год. Прышчэпкі робяцца і людзям, якія прафесійна належаць да груп павышанай рызыкі.

**Наталля РЫБАКОВА,**
**урач-эпідэміёлаг.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Амаль тры дзясяткі год абрабляе зямлю на сваёй сядзібе Ядвіга Шорац з Краснага. І кожную вясну снег, растаючы, можа прынесці з зямлі заразу сібірскай язвы. Ачаг за плотам.**

# Здарэнне на хутары

**Франц Зароўскі**. У далёкім 1953 годзе пачынаў вайсковую службу радавым у Сярэдняй Азіі. Надарылася з'ездзіць у камандзіроўку ў Вінніцу. Пасля чаго быў паабяцаны водпуск. Камандзіроўка не з лёгкіх. Вёз з Самарканда дадому камісаванага сяржанта. У таго з галавой не ўсё было ў парадку. Давез толькі да Кіева. Там хворы заўпарціўся – далей не паеду. Давялося здаваць у санчасць у Кіеве. Адзнакі аб прыбыцці ў Вінніцу ў дакументах не паставіў. З-за чаго перажываў пасля ўсю дарогу. Але туга па доме перамагала. Гомель, Жлобін, Мінск, Алёхнавічы... З Алёхнавічаў дарога здавалася зусім кароткай. А вось і родны краявід, па правы бок – хутар Шумалкі. Рэчка. А наперадзе – цэлыя дванаццаць дзён бесклапотнага адпачынку.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Франц Зароўскі да драбніц памятае 1953 год, калі прыязджаў на пабыўку з войска. У той год і пачуў пра язву на родным хутары Шумалкі.**

Праляцелі яны імкліва. І – назад, у Самарканд.

– Франц Пятровіч, а калі дазналіся, што дома знайшлі сібірскую язву?

– Не паспеў прыехаць, як на другі дзень у часць прыходзіць тэлеграма. Мяне выклікаюць да начальства: Як здароўе? Не хварэеш? Кажу: Нармальна.

Пасля ўжо з дому пісьмо прыйшло. Усё расказалі.

Пра падзеі дома расказвае сястра Франца Зароўскага **Францішка Шапавал**:

– Я ўжо тут, у гарадку, жыла. Тата дапамог хату збудаваць. Я тады цяжарная **Валодзем** хадзіла. А наш хутар добра відзён. Неяк бачу – людзі мітусяцца. У белых халатах. Агонь нейкі паляць. Я – праз рэчку. А там мне кажуць, што здарылася.

У ліпені 1953 года гаспадары Шумалак **Марыя** і **Пётр** забілі цялушку і павезлі прадаваць у Мінск. У Мінску, мабыць, пасля экспертызы, выявілася, што жывёліна была хворая на "сібірку". Умомант на сядзібу прыехалі ўрачы, міліцыя. Для гаспадароў і іхняй дачкі Ядзі гэта было, вядома, вельмі нечаканна. Не думалі пра хваробу. Франц Пятровіч кажа, што тыя людзі, што свежавалі цяля, нават закусвалі свежынай.

Але яго сястра Францішка згадвае, што ў мамы іх пасля была язва на руцэ. Потым залячылі.

У той дзень, калі прыехалі ўрачы, рабілі ўколы ўсёй свойскай жывёле, апрацоўвалі інвентар, вывозілі з хлява гной.

– Што такое Шумалкі? Чаму так хутар назвалі? – пытаюся ў Франца Зароўскага.

– Шумалкі. Гэта ў нас так месца завуць, куды звозілі ўсякае смецце, падаль. А бацькі пасяліліся там.

На месцы ранейшага хутара, там, дзе захавалі рэшткі хворага цяляці, стаіць абгародка і папераджальныя надпісы. Але дзесьці побач, цяпер і выявіць немагчыма, дзе, ёсць яшчэ ачагі заразы сібірскай язвы. Невыпадкова ў 53-м менавіта цяля з Шумалак захварэла на "сібірку". Споры гэтай заразы жывуць у зямлі дзесяцігоддзі, а то і стагоддзі.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

## Сімптомы і праяўленні хваробы

Сібірская язва ў людзей праяўляецца ў выглядзе лакалізаванай (скурнай) і генералізаванай формаў. Пры скурнай форме звычайна паражаюцца адкрытыя ўчасткі цела, слізістыя абалонкі вачэй, ротавай поласці, носа. Пасля інкубацыйнага перыяду працягласцю ад некалькіх гадзін да 8 дзён у месцы ўкаранення ўзбуджальніка з'яўляецца шчыльная чырвоная пляма, якая свярбіць, на месцы яе ўтвараецца пухірок, напоўнены жоўтай ці цёмнай вадкасцю. Пасля ўскрыцця пухірка ўтвараецца язва. На ацёчных баках язвы з'яўляюцца "даччыныя пухіркі", якія, праходзячы тыя ж этапы развіцця, праз 5–6 дзён вядуць да фарміравання сібіраязвеннага карбункула. Характэрным сімптомам з'яўляецца абшырны бязбольны ацёк тканак, павелічэнне прылягаючых да карбункула і аддаленых лімфатычных вузлоў. З 2-га тыдня на месцы карбункула пачынае фарміравацца чорны струп. Захворванне суправаджаецца павышэннем тэмпературы цела да 39–41 градусаў на працягу 5–7 сутак, з'яўленнем сімптомаў агульнай інтаксікацыі.

Генералізаваная форма сібірскай язвы можа быць ускладненнем лакалізаванага (скурнага) працэсу, а пры паветрана-пылавым і харчовым шляхах заражэння ўзнікае першасна. Захворванне пачынаецца востра з прыкметамі агульнай інтаксікацыі (ліхаманка, галаўны боль, слабасць, шматразовая рвота), з паражэннем лімфатычнай сістэмы і ўнутраных органаў. Хвароба працякае вельмі цяжка, са 100% смяротнасцю. Пры своечасовым звароце па медыцынскую дапамогу лячэнне скурнай формы сібірскай язвы заканчваецца эфектыўна.

**Наталля РЫБАКОВА.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# ФК «Маладзечна-2000»: спадзяемся на лепшае?

**Што чакаць ад наступнага міжсезоння галоўнай каманды рэгіёна?**

Галоўны трэнер **Людас Румбуціс** даказаў яшчэ раз, што працаваць умее: ён паставіў даволі сімпатычную каманднную гульню і выканаў задачу на сезон. Гульня не заўсёды прыносіла ачкі, але свой твар каманда мае.

Калі не браць пад увагу 10–матчавую безвыйгрышную серыю (гульнявы спад – спадарожнік кожнай маладой каманды), то можна зрабіць выснову: выступілі для дэбютнага сезона добра. Той спад выкліканы перабоямі ў задняй лініі каманды. Але толькі мінскае "Дынама" і "Маладзечна" змаглі тройчы паразіць вароты БАТЭ на іх полі.

Паспрабуем падвесці вынікі гульні з кожнай з ліній.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**"Маладзечна-2000" – "Днепр-Трансмаш". Каманда віншуе Віталя Макрыцкага (№11) з забітым голам.**

## Варатары

Па статыстыцы – поўная раўнавага. **Рубацкі** гуляў у 2 разы больш, у столькі ж разоў больш ён і прапусціў. **Сцепановіч** таксама добры варатар (успомнім яго 2 адбітыя пенальці ў гульні з "Шахцёрам").

## Абаронцы

Апошнімі гулялі **Муравейнікаў** (першая палова) і **Сарасек** (другая). Але тэрмін арэнды апошняга ў БАТЭ скончыўся. У дублі на гэтай пазіцыі гуляў 18-гадовы **Сяргей Дрозд**. Людас Румбуціс сказаў, што ў наступным сезоне ён павінен быць "пад асновай".

Пазіцыя левага абаронцы была адна з самых праблемных: тут гулялі **Бычкоўскі, Ваўчок і Сысой**. Стабільнай гульні не паказаў ніхто. І ў апошнім матчы сезона гэтая пазіцыя была самая праблемная. З правым абаронцам вызначыліся – гэта Віталь Бычкоўскі. Ён з'яўляецца кандыдатам у маладзёжную зборную. Але няблага было б запрасіць на гэтую пазіцыю дасведчанага футбаліста.

Пярэдні абаронца. Выдатны сезон правёў **Дзмітрый Кабельскі**. Забіў 2 галы. Адзін з іх прынёс перамогу над "Гомелем", другі – дапамог перамагчы БАТЭ.

## Паўабаронцы

Апорны. У канцы сезона далаў **Карпіленка**. Ён трывала забранірававаў за сабой гэтую пазіцыю. Справа надзейна гуляў **Мігас** (адзін з лідэраў каманды), злева – мяняліся **Тартоўскі і Азаронак**. Пра апошняга ўвогуле можна сказаць, што гэта знаходка для клуба. Нягледзячы на тое, што яму 26 год, ён нідзе не мог замацавацца. Сёлета паказаў сябе ўніверсалам, які можа згуляць добра на любой пазіцыі. Як не ўспомніць яго гол у дамашняй сустрэчы з "Нафтанам" на апошніх секундах гульні.

Пад нападаючымі ў стартавым складзе гуляў капітан **Віталь Міхалёў**. У сезоне забіў 5 галоў – другі пказчык у камандзе. За спінай у яго – 20-гадовы **Дзяніс Смірноў**, у патэнцыял якога верыць Людас Румбуціс.

## Нападзенне

Адна з праблем сезона. Менш за "Маладзечна" забіла толькі тройка аўтсайдэраў. Адзін **Сяргей Давыдаў** з "Нёмана-Белкарда" забіў больш за ўсю маладзечанскую каманду.

Добра, што выручыў **Турчыновіч**, у якога пайшла гульня ў сярэдзіне сезона. Маладыя нападаючыя **Макрыцкі** і **Сідарэнка** амаль увесь сезон мелі адзін гол на дваіх. Але з траўмай Турчыновіча яны абодва пачалі гуляць у стартавым складзе і забілі ў канцоўцы чэмпіянату 4 галы. Праблема, што ў Турчыновіча заканчваецца кантракт. Камандзе патрэбны дасведчаны нападаючы. Успомнім пра нашага **Вяжэвіча**, які, хутчэй за ўсё, пойдзе з "Белшыны". Са становічага сказаць можна пра тое, што ў клуба ёсць афіцыйны сайт у Інтэрнэце. Мяркую, адзін з лепшых сярод каманд вышэйшай лігі.

Калі Людас Румбуціс пашырые на ніве менеджэрскага майстэрства і забяспечыць камандзе належнае фінансаванне, то яна ў наступным сезоне можа ўзняцца на 2–3 радкі вышэй і стаць у будучым адным з фаварытаў.

Шкада, але горад дапамагаць камандзе цяпер не ў стане – бюджэт і так мае дэфіцыт у 2 мільярды рублёў.

Таму застаецца спадзявацца толькі на аднаго чалавека – Людаса Румбуціса. А балельшчыкаў чакае цікавае міжсезонне. Невядома, з якім знакам: "плюс" ці "мінус"?

**Юрый КАРПІЦКІ.**

Конкурс

# Алег Вірынскі з Маладзечна бярэ паўзу і перамагае

На пытанні трэцяга этапа рэдакцыя атрымала 14 ліставанняў. Найбольшую колькасць правільных адказаў – пяць – даслаў маладзечанец **Алег Вірынскі**. Цікава, што ён меў 6 балаў пасля першага этапа, а ў другім удзел не прымаў. Чатыры правільныя адказы на другім этапе маюць віляйчанін **Аляксандр Вярбіцкі** і маладзечанец **Анатоль Шпілеўскі**. Па суме трох этапаў лідзіруюць з 14 баламі **Вадзім Сярпейка** (6+5+3) і Анатоль Шпілеўскі (6+4+4). Па 13 балаў у **Аляксандра Вярбіцкага** (5+4+4), **Мікалая Кіндры** (6+4+3), **Ігара Міцкевіча** (6+4+3). 12 балаў набралі **Іна Крук** (5+4+3) і **Уладзімір Лазучонак** (6+4+2).

## Правільныя адказы на пытанні трэцяга этапа:

1. Б – унічыю 1:1. 2. А – перамога Германіі з розніцай у два ці больш мячоў. 3. В – Шунейка. 4. В – Гурэнка. 5. Б – 1996. 6. В – выйдзе на замену.

## Інфармацыя для ўдзельнікаў

Калі на чацвёртым этапе некалькі чалавек набяруць найбольшую колькасць балаў, пераможца будзе высвятляцца па адказах на апошнія тры (тэарэтычныя) пытанні.

Пры падвядзенні агульных вынікаў за ўвесь конкурс у выпадку раўнавагі будзем падлічваць адказы на тэарэтычныя пытанні на ўсіх этапах (іх атрымліваецца палова – 6+2+1+3).

## Пытанні чацвёртага этапа

### Міжнародны футбол

1. 22 лістапада першы матч 1/16 Кубка УЕФА "Хапаэль" (Тэль-Авіў, Ізраіль) – "Лакаматыў" (Масква, Расія) завяршыцца

А – перамогай "Хапаэля". Б – унічыю 0:0. В – унічыю, але не 0:0. Г – перамогай "Лакаматыва".

2. У гэтым матчы ў складзе "Лакаматыва" Максім Бузнікін

А – выйдзе ў "аснове". Б – выйдзе на замену да 70-ай хвіліны ўключна. В – выйдзе на замену пасля 70-й хвіліны. Г – удзелу не прыме.

### Беларускі футбол

3. 22 лістапада у матчах на Кубак УЕФА будуць гуляць "Лакаматыў", "Парма" і "Мілан". Колькі беларускіх легіянераў возьмуць удзел?

А – Ноль. Б – Адзін. В – Два. Г – Тры.

4. За мінскае "Дынама" ніколі не выступаў

А – Алі Алчагіраў. Б – Мірджалол Касымаў. В – Руслан Лукін. Г – Ільшат Файзулін.

### Рэгіянальны футбол

5. Найбольшая колькасць мячоў, што забіў Аляксандр Вяжэвіч у складзе "Маладзечна" у адным чэмпіянаце.

А – 12. Б – 16. В – 20. Г – 24.

6. Якія з гэтых братоў блізняты?

А – Ваўчкі. Б – Канапелькі. В – Карыцькі. Г – Куракі.

**УВАГА.** 22 лістапада (чацвер) – апошні тэрмін атрымання адказаў.

Адказы можна прыносіць у рэдакцыю, дасылаць на адрас рэдакцыі, дасылаць на E-mail konkurs@tut.by

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

Табло

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**17.10 Старыя Дарогі – Смаргонь 1:2 (0:1)**

Галы: Шагойка (35), Шаблінскі (56); (74)

Склад: Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Курак, Пагоцкі, Шпілеўскі, Шаблінскі (Кошаль, 67), Селіванаў, Дзігілевіч, Шагойка (Паркулевіч, 77), Шпакоўскі

**17.10 Вертыкаль (Калінкавічы) – Забудова 2:0 (0:0)**

Галы: (58), (88)

Склад: Мядзведзеў, Івашкевіч, Д. Мятліцкі, Катлярэнка, М. Мятліцкі, Урублеўскі, Міранові ч, Садчанка, Татун, Грыхуцік, Ваўчок

**21.10 Забудова – Пінск-900 1:3 (0:2)**

Галы: Міранові ч (84-пен); (18), (38), (76)

Склад: Мядзведзеў, Івашкевіч, Грыхуцік, Ал. Канапелька, Д. Мятліцкі, Ан. Канапелька, Міранові ч, Садчанка, Татун, Чарнель, Ваўчок

**21.10 (дубль) Белшына (Бабруйск) – Маладзечна-2000 4:2 (2:0)**

Галы: (22), (45), (62), (88); Матусевіч (79), Альховік (82)

Склад: Сцепановіч (Асадоўскі, 72), Дрозд, Пятроўскі, Альховік, Ваўчок (Касцюк, 72), Лявончык (Асіповіч, 83), Антановіч, Багайчук, Відрук, Вільтоўскі (Харэцкі, 72), Тартоўскі (Матусевіч, 46)

## Статыстыка ФК «Маладзечна-2000»

Матчы: Бычкоўскі, Макрыцкі – па 26; Азаронак, Міхалёў – па 25; Кабельскі, Тартоўскі – па 24; Карпіленка, Мігас – па 21; Турчыновіч – 20; Муравейнікаў, Сідарэнка, Сысой – па 19; Рубацкі – 18 (-32); Вільтоўскі – 14; Багайчук – 13; Сарасек – 11; Смірноў – 10; Сцепановіч – 9 (-15); Дараховіч – 7; Ваўчок – 6; Лявончык – 3; Млечка – 2; Шаўроў – 1.

Галы: Турчыновіч – 8; Міхалёў – 5; Сідарэнка – 3; Кабельскі, Макрыцкі – па 2; Азаронак, Тартоўскі, Баранаў (Днепр-Трансмаш, аўтагол) – па 1.

■ ДУБЛЬ

Антановіч, Лявончык – па 26; Дрозд – 25; Альховік – 23; Відрук – 22; Матусевіч – 20; Дараховіч – 18; Смірноў – 17; Сцепановіч – 17 (-25); Багайчук – 16; Млечка – 15; Вільтоўскі – 14; Лужынскі – 12; Грыхуцік, Чарнель – па 11; Абановіч, Харэцкі – па 10; Асадоўскі – 9 (-6); Пятроўскі – 9; Макрыцкі – 8; Асіповіч, Ваўчок, Карпіленка – па 7; Рубацкі – 6 (-14); Сідарэнка – 6; Касцюк – 5; Мароз – 5 (-7); Муравейнікаў, Савіцкі – па 4; Мігас – 3; Тартоўскі – 2; Бурачонак, Бычкоўскі, Кабельскі, Маргун, Сарасек, Сысой – па 1.

Галы: Антановіч, Вільтоўскі, Смірноў – па 4; Дараховіч, Лявончык, Сідарэнка – па 3; Відрук, Млечка – 2; Альховік, Грыхуцік, Карпіленка, Матусевіч, Чарнель – па 1.

## Бычкоўскі забіў гол

**Футбаліст ФК "Маладзечна-2000" Віталь Бычкоўскі, які на гэтым тыдні быў у Германіі ў складзе маладзёжнай зборнай, забіў гол у першай таварыскай сустрэчы.**

Зборная гуляла ў горадзе Хепфіген супраць нямецкага клуба другога дывізіёна Гройтэр Фюрт. Лік сустрэчы 1:1. Віталь Бычкоўскі выйшаў на замену на 46-й хвіліне і гуляў на непрывычнай для сябе пазіцыі апорнага паўабаронцы. На 82-й хвіліне ён аднавіў раўнавагу ў ліку.

12 лістапада зборная гуляла супраць клуба трэцяга дывізіёна "Штутгарт" і саступіла 0:1.

Віталь Бычкоўскі выйшаў на замену на 13-й хвіліне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

**МАЛАДЗЕЧНА. 8–10 лістапада прайшла абласная спартакіяда па грэка-рымскай барацьбе сярод навучэнцаў ДЮСШ 1987–1988 г. н. каманды ДЮСШ Мінскай вобласці і з Лідскага раёна.**

Пераможцамі ў камандным заліку сталі зборныя Маладзечна, Барысава і Пухавіч.

У асабістым заліку было 10 вагавых катэгорый. Пераможцамі сталі:

І. Пішчака (32 кг, Маладзечна), Н. Важнік (35 кг, Пухавічы), С. Суяфанаў (38 кг, Ліда), Я. Бачко (42 кг, Ліда), М. Санцэвіч (47 кг, Ліда), А. Забагонскі (53 кг, Маладзечна), Р. Багданёнак (66 кг, Маладзечна), А. Рыжанкоў (73 кг, Чысць), А. Дрэдун (85 кг, Маладзечна). Усе пераможцы атрымалі па 10 тысяч рублёў і ганаровыя граматы.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ТУРЫЗМ

## Тры новыя турысты

**МАЛАДЗЕЧНА. Тры школьныя выкладчыкі з рэгіёна атрымалі ў пачатку лістапада пасведчанні аб заканчэнні курсаў па падрыхтоўцы інструктараў школьнага турызму.**

Гэта **Сяргей Асколкаў** з Чысцінскай СШ, **Валерый Грабоўскі** (СШ №5, Маладзечна) і **Валянціна Іванова** з Куранецкай СШ.

Гэта былі абласныя курсы, які доўжыліся 2 тыдні. Першая частка – тэарэтычныя заняткі, другая – пешаходныя і веласіпедныя паходы па Мінскай і Віцебскай абласцях. У тым ліку, праз Маладзечна, Вілейку, Мядзел.

Пасведчанні даюць права весці турыстычную работу ў школе і праводзіць спартыўныя паходы першай (самай нізкай) катэгорыі складанасці.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

